*І сэрцам палюбіў я гэты кут — цябе, мой старадаўні родны Слонім.*
*Алег Лойка*

# Слонімскі край

2018, № 9(31). Верасень

## “Чорная смерць” у Слоніме ў XVII стагоддзі



У 1630 годзе ў Слоніме здарылася трагедыя. Ад чумы (“чорнай смерці”) памерлі больш за 80 чалавек. Калі дапусціць, што на той час у горадзе было 1,5-2 тысячы жыхароў, страты склалі 4-5% насельніцтва. У працах даследчыкаў слонімскай гісторыі гэты факт не згадваецца. А дакументы існуюць! Іх у рукапісным аддзеле бібліятэкі Віленскага ўніверсітэту адшукала і апублікавала даследчыца з Беластока Мажэна Ледке.* У першым дакуменце падаецца спіс дамоў, жыхары якіх памерлі ў 1630 годзе. У другім дакуменце, складзеным ужо ў 1631-м, папярэдні спіс дапаўняецца і ўдакладняецца.

У той час слонімскім старостам быў Ян Станіслаў Сапега, сын Льва Сапегі. Ён якраз у 1630 годзе вярнуўся з-за мяжы і стаў сведкам гэтых падзей. Дарэчы, дакументы захаваліся якраз сярод архіўных матэрыялаў роду Сапегаў.

Ледке не выключае, што хвароба прыйшла ў Рэч Паспалітую з нямецкіх і аўстрыйскіх земляў. Чума ў той час была і ў Італіі. У XVII стагоддзі землі ВКЛ перажылі 7 эпідэмій. Яны былі і раней. Пандэмія чумы атакавала Еўропу ў 1346-1353 гадах, лічыцца, што яна прыйшла з Азіі. У наступныя дзесяцігоддзі паўтаралася, але ў меншых маштабах.

*Працяг на ст. 4.*

## Гардон: Калі ў Слоніме быў рай



Некалькі гадоў таму расійскі гісторык Аляксандр Гардон падчас міжнароднага круглага стала навукоўцаў, разважаючы пра лёс сялянства ў XX стагоддзі ў СССР, згадаў пра Слонім. І пачаў успамінаць пра сваё дзяцінства, праведзенае ў нашым горадзе. Атрымалася цікава.

Аляксандр Гардон — доктар гістарычных навук, працаваў у Маскве загадчыкам сектарам Усходняй і Паўднёва-Усходняй Азіі Інстытута навуковай інфармацыі па грамадскіх навуках Расійскай акадэміі навук. Ён нарадзіўся ва Украіне ў Днепрапятроўку (Дняпры) ў 1937 годзе ў сям’і ваеннага інжынера. У Слонім яго сям’я пераехала з Расіі ў першыя пасляваенныя гады. У 1954-м Гардон скончыў у нашым горадзе сярэднюю школу і паступіў на гістарычны факультэт універсітэта ў Ленінградзе (Санкт-Пецярбургу). Так пачаўся яго шлях як навукоўца.

*Працяг на ст.3.*

*ХРОНІКА*

# У вёсцы Вецявічы ўстанавілі прыгожую шыльду

На хаце беларускага паэта і навукоўца Міколы Арочкі (1930 — 2013) у вёсцы Вецявічы з’явілася прыгожая шыльда. Яе зрабілі яго сябры. Дарэчы, сёлета ў вёсцы з’явілася вуліца Арочкаў. Назвалі яе ў гонар Міколы і Эдуарда Арочкаў. Апошні некалькі дзесяцігоддзяў узначальваў мясцовую гаспадарку, друкаваў свае ўспаміны, публіцыстыку, выступаў у абарону беларускай мовы.




*racyja.com*

# “Каляндар Слонімшчыны”




У жніўні ў Мінску выйшла з друку кніга “Каляндар Слонімшчыны”. Яе аўтары — краязнаўцы Сяргей Чыгрын і Уладзімір Хільмановіч (ён жыве ў Гродне). Яны сабралі ў адно выданне розныя даты з гісторыі нашай зямлі.

# Госць з Францыі

Слонімшчыну наведаў наш зямляк, вядомы беларускі і французскі оперны спявак Аркадзь Валадось. Ён жыве ў Францыі. Як піша “Слонімскі веснік”, Валадось пабываў у сваёй роднай вёсцы Какошчыцы, перанач аваў у бацькоўскай хаце. “Душа баліць за тое, што вёска вымірае”, — сказаў ён.




*Фота: slonves.by*

*СТАРЫЯ ЗДЫМКІ*

# Брама палаца Пуслоўскіх у Альбярціне



У пачатку верасня на інтэрнэт-аукцыёне на сайце ebay.de з’явілася некалькі фотаздымкаў, зробленых у Альбярціне падчас Першай сусветнай вайны. На адным з іх бачым браму і нямецкіх вайскоўцаў, якія яе вартуюць. У палацы ў той час знаходзіўся штаб 9-й нямецкай арміі.

“Слонімскі край” можна чытаць на сайце беларускай інтэрнэт-бібліятэкі “Камунікат”: http://kamunikat.org/

# Гардон: Калі ў Слоніме быў рай

*Працяг, пачатак на ст. 1.*



Падчас дыскусіі Аляксандр Гардон узяў слова. Вось што ён сказаў: “У Заходняй Беларусі прайшла калектывізацыя. Гэта быў 1951 год. Мне давялося перажыць гэтую калектывізацыю. Я яе вельмі добра запомніў. Таму што мы з галоднага Падмаскоўя [прыехалі] ў Заходнюю Беларусь, у горад Слонім, тады Баранавіцкай, а цяпер Гродзенскай вобласці. І гэта быў рай. Нейкі рай быў проста. Гусі хадзілі, гусей запякалі ў яблыках. Ну і наогул — гэта было нешта. Але самае галоўнае — гэта быў базар! Які быў базар! Я да таго часу такое бачыў толькі ў “Кубанскіх казаках”. І потым я такога ніколі ў жыцці больш не бачыў. І раптам, як па ўзмаху — зіма 1951 года — і ўсё… Змялела. Ніякіх базараў. Адбылася гэтая калектывізацыя.

Што ўспамінаецца ў сувязі з гэтым? Ну, па-першае, у мяне назаўсёды сфармавалася разуменне сувязі сялянства з рынкам. Лічыцца, што рынак нясе сялянству смерць, выракае яго на пагібель. Далёка не ўсё так адназначна. Наогул, сялянства схільнае гандляваць. Пытанне: у якіх умовах, калі і як?”.*

У круглым стале ўдзельнічаў прадстаўнік Беларусі — доктар гістарычных навук, прафесар Беларускага дзяржаўнага эканамічнага ўніверсітэту Алег Бухавец. У сваім выступе ён казаў, што пасля вайны ў Заходняй Беларусі супраць савецкіх уладаў ваявалі толькі атрады польскай Арміі Краёвай і літоўскіх “лясных братоў”. Аляксандр Гардон не прапусціў гэтыя словы, ён удакладніў: “Не толькі палякі і літоўцы сядзелі ў лясах. Зусім не. Беларусаў там таксама хапала. Я памятаю, на адным банкеце я пазнаёміўся з дырэктарам Інстытута гісторыі Акадэміі навук Беларусі. Ён родам з Ваўкавыска.** Ён сказаў, што са сваім бацькам быў таксама ў лясах. Я яго пытаю: “А што вы там рабілі?”. Ён адказаў мне: “Я не ведаю. Пайшла нейкая паніка, што вось [савецкія карныя органы] будуць хапаць, зводзіць рахункі.

Сапраўды, рахункі… Сялянская супольнасць утварае нейкае адзінства. Варта ў яе ўнесці нейкі элемент разладу — і гэта б’е праз пакаленні. Б’е наводмаш. Гэта зусім знішчальная рэч. Я памятаю, як забілі нашага суседа ў Слоніме. Забілі рахункі, якія ўзніклі яшчэ ў час вайны і якія абвастрыліся ў перыяд калектывізацыі. Гэтыя рахункі даканалі чалавека. Хоць быў цалкам мірны чалавек, пажарны”.***

*Падрыхтаваў* ●***Сяргей Ёрш.***



**Крестьянский вопрос как альфа и омега отечественной модернизации: Международный круглый стол “Крестьянство и власть в истории России XX века” // Сталинизм и крестьянство: сборник научных статей и материалов круглых столов и заседаний теоретического семинара “Крестьянский вопрос в отечественной и мировой истории”. — Москва, 2014. С.284-285.*

***Верагодна, маецца на ўвазе Міхаіл Касцюк, які быў дырэктарам Інстытута гісторыі ў 1988-1999 гадах. Праўда, ён нарадзіўся ў 1940 годзе не ў Ваўкавыскім раёне, а ў Навагрудскім.*

****Сталинизм и крестьянство… С. 285..*

# “Чорная смерць” у Слоніме ў XVII стагоддзі

*Працяг, пачатак на ст. 1.* Загінуў кожны трэці-чацвёрты жыхар кантынента. У той час пацярпеў і Слонім, разам з Наваградкам, Менскам, Ваўкавыскам. Чума прыходзіла і пазней. ВКЛ яе поражыў у 1653-1654 гадах (а ў 1658-м бяда прыйшла зноў). Якія былі страты насельніцтва, невядома. Але ў той жа Маскоўскай дзяржаве ў гарадах памірала ад 25% да 85% жыхароў. У Францыі ў XVII стагоддзі ад чумы памерлі больш за 2 млн чалавек, эпідэмія здаралася ў сярэднім раз на 15 гадоў.

І ў той час яшчэ адбываліся войны! Як удавалася выжываць людзям?! Вядома, што ў 1630 ці ў 1631 гадах у Слоніме, у спадзяванні на пазбаўленне ад страшэннай бяды, правялі ўрачыстую працэсію з абразом святога Бенно і машчамі святога Казіміра.

На жаль, спісы не ўтрымліваюць поўнай інфармацыі пра колькасць памерлых у сям’і. Відаць, у некаторых выпадках, калі згадваецца толькі гаспадар, памерла і ўся яго сям’я. Сустракаецца і пэўная блытаніна — у адным спісе згадваецца толькі імя памерлага, у іншым — імя і прозвішча. І трэба параўноўваць дадзеныя (калі яны ёсць), каб устанавіць, што гэта адна і тая ж асоба.

У дакументах падрабязна апісваецца маёмасць. Вельмі часта, калі паміралі сем’і, іх суседзі рабавалі гаспадаркі. Напрыклад, скралі частку маёмасці, якая засталася па памерлым Несцеры Бубешцы на Скробаўскай. Нехта Галач (Галас) узяў 4 авечкі, Шаер узяў адну бочку аўсу. А Кісяленя засеяў яго зямлю жытам. Здаралася, што нават разбіраліся на дровы будынкі.

**●*Арцём Салейка***



**Беразецкая (Бярозавая?) вуліца**

Саколка Каваль, яго жонка выйшла замуж.

Яська Пільнік.

Яська Ярынцэвіч.

**Вялікая вуліца**

Цяпер — Першамайская.

Дзянісавая.

Жукава, застаўся сын.

Мічудзіны, муж і жонка, засталіся трое сыноў.

Крывапісы, муж і жонка, застаўся сын.

Любін, нашчадкаў не пакінуў.

Ян Гейсмант і яго жонка, засталіся малыя дзеці.

Павел Муляр.

**Гарбарская вуліца**

Фёдар Ошыт.

Лукаш Фурман.

Дзям’ян Зіновіч.

Пётр Гарбар.

**Грыбаўская вуліца**

Андрэй Лыска.

Андрэй Лыткевіч, засталася 5-гадовая дачка.

Дарафей Антановіч.

Амброжы Вазніца, застаўся 5-гадовы сын.

Міска Кашчыц, нашчадкаў не пакінуў.

Іван Садоўнічы.

Іван Агароднік, нашчадкаў не засталося.

Андрэй Бурмістр, нашчадкаў не засталося.

Беняш (Беняшова), засталася дачка.

Максім (Максімоўскі).

Петрук (Петрукоўскі), засталіся сын і дачка.

Іван Катоўнік.

**Замкавая вуліца**

Цяпер — Камсамольская.

Ілля Дудка, жонка з дзецьмі ўцякла.

Ігнат Клімовіч, нашчадкаў не засталося.

Грэцкія, муж і жонка, засталіся двое сыноў.

Гарасім Лукашэвіч.

Канзала, засталіся сыны.

Мікіта Янцовіч, жонка выйшла замуж за Філона, яны таксама памерлі.

Іван Дзіковіч, муж, жонка і дзеці (колькасць невядомая).

Абушко (ці Абушкоўскі), муж і жонка, дзеці не пазначаны.

Райна Юшчанка, уладальніца крамы на рынку, дзяцей не было, муж, Андрэй Вазніца, быў у ад'ездзе, служыў віленскаму ваяводзе.

Філон Міхновіч.

**Замосце**

Мацяш Маклок, уладальнік карчмы. Засталіся жонка і дачка, якая выйшла замуж і жыла ў Дзятлаве.

Сямён Курпік.

Андрэй Курпік і яго сваячка.

**Панасоўская вуліца**

Цяпер — Пушкіна.

Собаль, муж і жонка, засталася дачка.

Стэфан Дамброўскі, жонка і дзеці (іх колькасць не пазначана).

Томка Рэзнік, жонка выйшла замуж.

Карвась, муж і жонка, засталася дачка.

Гармасюта Несцюціч.

Пётр Яскевіч.

Фёдар Садоўнічы.

**Сакалоўская вуліца**

Дзяніс Першкевіч.

Шымка Дзенчэняць

Ян Коцьмер, сталяр.

**Скробаўская вуліца**

Цяпер — Чырвонаармейская.

Несцер Бубешка.

Філіп Давідовіч, засталіся дзве дачкі і сын.

Бакусь (Макась) Крыцкі, яго жонка — адна з дачок Філіпа (Філіпава).

Ян Мазоль.

Курыла Мазоль.

Іванова Дудчына.

Максім Кузьміч.

Войцех Ліхачэвіч, нашчадкаў не пакінуў.

**Спаская вуліца**

Цяпер — Васі Крайняга.

Казёл.

4 чалавекі, з іх вядомыя Марына Лабкова, яе зяць Ілля, Сідар.

Марцін Ражок, трымаў бровар. Жонка з ім апошнія два гады не жыла. Па адных звестках, яго сын быў ва Украіне, па іншых — яго ўжо не было ўжывых.

Баршчова, нашчадкаў не пакінула.

Курчык, войт, забраў маёмасць Баршчовай і сам памёр.

Рагоза Швец, нашчадкаў не пакінуў.

Карп.

Драбы, муж і жонка, нашчадкаў не пакінулі.

Моніна, нашчадкаў не пакінула.

Мікалай Печурка.

**Татарская вуліца**

Цяпер — Кірава.

Ашыткі (ці Ошыты), муж, жонка, дзеці (колькасць не пазначана).

**Liedke M. Materiały do historii morowego powietrza w Słonimiu w latach 1630 i 1631 // Przeszłość Demograficzna Polski (Wrocław), 2012, № 31. C. 83-94.*



# Мацэвы са слонімскіх яўрэйскіх могілак у берлінскім выданні

У 1923 годзе ў Берліне выйшла кніга (яе называюць і фотаальбомам, і каталагам) Артура Леві "Яўрэйскае надмагільнае мастацтва ва Усходняй Еўропе: калекцыя".* Выданне рэдкае. Толькі некаторыя ілюстрацыі, якія датычаць Слоніма, вядомыя, яны ёсць у інтэрнэце. Іншыя не менш, а можа і больш цікавыя.

Крыху пра аўтара. Артур Леві (1847 — 1931) — палявы равін у IX нямецкай арміі падчас Першай сусветнай вайны. Яе штаб з 22 верасня 1915 года знаходзіўся ў Альбярціне (раней — у Лодзі). Леві быў на Слонімшчыне да 1916 года. Ён кантактаваў з мясцовымі яўрэямі, цікавіўся могілкамі і звярнуў увагу на мацэвы (надмагіллі), якія адрозніваліся ад тых, што бачыў на яўрэйскіх могілках у Германіі.** Некаторыя ён фатаграфаваў, рабіў іх апісанне. Акрамя Слоніма, пабываў і ў суседніх гарадах. У кнізе змешчана сотня здымкаў.

Дарэчы, "СК" ужо пісаў на тэму зацікаўлення нямецкімі вайскоўцамі падчас Першай сусветнай вайны мацэвамі з слонімскіх яўрэйскіх могілак.*** Яны рабілі іх малюнкі, некаторыя былі апублікаваныя ў газеце "Deutsche Kriegszeitung von Baranowitschi" ("Нямецкая ваенная газета ў Баранавічах").

Артур Леві змясціў у сваёй кнізе 6 слонімскіх фотаздымкаў. Першы — агульны здымак яўрэйскіх могілак на скрыжаванні цяперашніх Брэсцкай і Шасейнай вуліц. Аўтар паставіў яго ў самым пачатку выдання. Іншыя здымкі верагодна былі зробленыя там жа. Гэта і мацэвы, і збудаванні на магілах.

●*Сяргей Ёрш*



Abb. 1. Slonim.



Abb. 7. Slonim.




10 Jüdische Grabmalkunst in Osteuropa

Und wenn solchermaßen wohl die Fiktion gestärkt werden soll, daß auf diesem Wege die Anliegen ... schneller ... en, so ist ... auch das ... erreicht, ... t für die ... ist und ... rabstätte ... ird vom ... estreuter ... b. 9 und ... egel ein

Abb. 9. Slonim.

**Levy A. Jüdische Grabmalkunst in Osteuropa: eine Sammlung. — Berlin, 1923.*

***Гавриленко К. Проблемы сохранения и развития погребальной культуры евреев Западной Беларуси и Западной Украины во 2-ой пол. XIX в. — в кон. 30-х гг. XX в.: источники изучения // Государства Центральной и Восточной Европы в исторической перспективе: сборник научных статей по материалам II Международной научной конференции «Социальные, политические и культурные процессы на территории Центральной и Восточной Европы в исторической перспективе», Пинск 24–25 ноября 2017 г. — Пинск, 2017. Ч. 2. С. 223.*

****Ёрш С. Слонім на старонках нямецкай газеты 1916-1918 гадоў // Слонімскі край, 2016, № 4. Травень. С. 1, 6-7.*



Abb. 43. Slonim 1889.

***На мацэве 1889-га, усталяванай на магіле маладой дзяўчыны Розэнблюм, выява зламанай ружы.***



Abb. 80. Slonim 1905.



Abb. 39. Slonim 1892.

***На мацэве 1892 года выява карабля са зламанай мачтай.***

# Калекцыя здымкаў Слоніма падчас Першай сусветнай вайны

У верасні 2018-га на інтэрнэт-аўкцыёне allegro.pl з’явілася чарговая падборка фотаздымкаў, зробленых у Слоніме падчас Першай сусветнай вайны. Мы гэта прагназавалі ў сакавіку 2018-га, калі пісалі пра з’яўленне на тым жа сайце некалькіх аэрафота Слонімшчыны стогадовай даўніны.* Яны паходзілі з невядомага выдання, магчыма, альбома. Цяперашні ўладальнік проста разабраў яго на асобныя старонкі і прадае часткамі.

Здымкі, якія з’явіліся цяпер, паходзяць з таго ж выдання. Іх паўсотні. Невялікая частка нам ужо вядомая (а сярод іх і аэрафота цэнтра горада), але большасць пабачылі ўпершыню. На жаль, аўтар на ўсе фота наклаў палоску паперы, што не дазваляе пабачыць некаторыя дэталі.

Значная частка здымкаў — гэта фота нямецкіх і аўстрыйскіх вайскоўцаў у Слоніме, Альбярціне і ў наваколлі. Ёсць здымкі Жыровічаў і Жыровіцкага манастыра 1916 года. Невядомы нам фатограф (ці фатографы) зафіксаваў тагачасныя масты ў Слоніме і іх стан пасля баёў 1915-га. Ёсць мясцовыя гандляры, здымкі Школьнай і Маставой вуліц, гарнізонны храм. Каштоўнае фота — пажар гандлёвых радоў. Як пісаў “СК”, пажар знішчыў палову гандлёвых радоў у Слоніме 13 верасня 1916 года. Тушылі яго не толькі мясцовыя пажарныя, але і нямецкія ды аўстрыйскія вайскоўцы.** Верагодна на фота зафіксаванае менавіта гэтае здарэнне.

***Сяргей Ёрш***

**Ёрш С. Аэрафота Альбярціна і Дзеравянчыцаў стогадовай даўніны // Слонімскі край, 2018, № 3(25). Сакавік. С. 15.*

***Ёрш С. Слонім на старонках нямецкай газеты 1916-1918 гадоў // Слонімскі край, 2016, № 4. Травень. С. 6.*



***Разбураны чыгуначны вакзал у Слоніме і сквер каля яго.***




***Чыгуначная станцыя і адрамантаваны вакзал.***




***Нямецкія вайскоўцы каля манастыра ў Жыровічах, 1916 г.***



*Разбураны чыгуначны мост праз Шчару.*



*Гараць гандлёвыя рады ў цэнтры Слоніма.*





*Нямецкая тэлеграфная станцыя.*



*Бернардынская вуліца (былая Спаская, а цяпер — Васі Крайняга).*



*Доўгая вуліца, цяпер — Касманаўтаў.*

# Пра малюнак царквы і капліцы на Скробаўскай вуліцы



У кнізе “Памяць: Гісторыка-дакументальная хроніка Слонімскага раёна” (Мінск, 2004) на 97-й старонцы змешчаны малюнак праваслаўнага храма і каталіцкай каплічкі каля яго. Укладальнікі выдання падпісалі яго так: “Свята-Праабражэнскі сабор у Слоніме. XIX ст.”. Проста фантастычная памылка, якую цяжка не заўважыць! Насамрэч на малюнку бачым гарнізонную царкву Аляксандра Неўскага і каплічку святога Яна Непамуцкага на былой Скробаўскай вуліцы (цяпер — Чырвонаармейская). Дарэчы, інфармацыі пра аўтара малюнка няма. Не паведамляецца і дзе ён быў адшуканы. Усе гэтыя хібы яскрава сведчаць пра ўзровень выдання.

У “СК” была публікацыя пра каталіцкую каплічку Яна Непамуцкага*. Найхутчэй яе пабудавалі ў канцы XVIII стагоддзя. У той час гэта была ўскраіна горада. У гэтым месцы праз вуліцу да Шчары бегла рэчка Вельжабка.

Ці сапраўды малюнак быў выкананы ў XIX стагоддзі? Калі каплічка ў той час ужо існавала, дык храм быў асвечаны толькі ў 1910 годзе.** Праўда, ёсць звесткі, што яго будаўніцтва пачалося ў 1880-я.*** Вайсковыя казармы былі ўзведзеныя ў самым пачатку XX стагоддзя. На малюнку іх не відаць. Таму зусім магчыма, што сапраўды мастак адлюстраваў гэты раён Скробаўскай вуліцы яшчэ да пабудовы казармаў.

●***Сяргей Ёрш***

**Ёрш С. Пра прыдарожную капліцу на былой Скробаўскай вуліцы // Слонімскі край, 2016, № 10. Лістапад. С. 1, 6.*

***Цитович Г. Храмы армии и флота. — Пятигорск, 1913. С. 180.*

****http://historiazabek.pl/?80-pulk-piechoty-wp,81*

# Чырвонаармейцы маглі не знайсці Слонім




У 1924 годзе ў Маскве выйшла кніга, прысвечаная тагачаснай польскай дзяржаве. Паколькі Заходняя Беларусь уваходзіла ў яе склад, у нарысе згадваецца Слонімшчына. Не ўсе звесткі, якія прыводзіць аўтар, Станіслаў Будкевіч, дакладныя. Мы звярнулі ўвагу на карту, на якой на чыгуначнай лініі Ваўкавыск — Баранавічы няма Слоніма! Наш горад знаходзіцца ў кіламетрах дзесяці на поўдзень ад яе. Такая памылка вельмі дзіўная. Тым больш, што выданне было разлічанае на камандзіраў і палітрукоў Чырвонай Арміі. У той час не выключаўся новы вайсковы канфлікт паміж СССР і Польшчай. І калі б пайшлі чырвонаармейцы ў паход на захад, яны маглі не знайсці Слонім у месцы, пазначаным на карце Будкевіча…

●***Генадзь Гурскі***

**Будкевич С. Польша: военно-географический и военно-статистический очерк с приложением карты. — Москва: Высш. военный ред. совет, 1924.*

# У бібліятэцы Кангрэсу ЗША захаваліся аўтографы слонімскіх школьнікаў

***Знайдзіце прозвішчы сваіх бацькоў і дзядоў!***

Заканчэнне, пачатак у № 7, 8, 2018 г.

У 1926 годзе школьнікі і настаўнікі Слонімшчыны паўдзельнічалі ў маштабнай акцыі, якую праводзілі польскія ўлады. Па ўсёй краіне былі сабраныя аднолькавыя аркушы, на якіх ставіліся подпісы пад віншаваннем амерыканскага народу з 150-годдзем утварэння ЗША. Асобна падпісваліся чыноўнікі-прадстаўнікі паветаў. Аркушы збіраліся ў кнігі, якія пасля былі перасланыя за акіян. Там яны захаваліся і былі змешчаны на сайце бібліятэкі Кангрэсу Злучаных Штатаў. У гэтым нумары змяшчаем апошнія аркушы, якія адносяцца да Слонімшчыны ў яе цяперашніх межах.

●***Сяргей Ёрш***





SZKOLNICTWO POLSKIE W HOŁDZIE NARODOWI AMERYKAŃSKIEMU NA PAMIĄTKĘ 150-LECIA NIEPODLEGŁOŚCI STANÓW ZJEDNOCZONYCH

| | | | |
|---|---|---|---|
| SCHOOL SZKOŁA | Powszechna | TRUSTEE OPIEKUN | Ludwik Markiewicz |
| LOCALITY MIEJSCOWOŚĆ | Łomasze | PRINCIPAL KIEROWNIK | Ludwik Markiewicz |
| DISTRICT POWIAT | słonimski | INSPECTOR INSPEKTOR | [illegible] |

Michal Babilo

Jan Jakimiec

Jan Jagowdzik.

Jan Jakimiec

*Ламашы.*



Mikołaj Jagowdzik.
Chaja Sobol.
Jgnacy Jednacz.
Maksim Jednacz.
Mitrofan Saniuk.
Paweł Saniuk.
Olga Jagowdzik
Olga Jagowdzik
Stefan Strelkowski
L. Markiewicz.

DRUK. M. ARCT, WARSZAWA

***Ламашы.***



SZKOLNICTWO POLSKIE
W HOŁDZIE NARODOWI
AMERYKAŃSKIEMU
NA PAMIĄTKĘ 150-LECIA
NIEPODLEGŁOŚCI
STANÓW ZJEDNOCZONYCH

| | |
|---|---|
| SCHOOL / SZKOŁA 2 klasowa Publiczna Powszechna | TRUSTEE / OPIEKUN |
| LOCALITY / MIEJSCOWOŚĆ Miłkanowicze | PRINCIPAL / KIEROWNIK Antoni [illegible] |
| DISTRICT / POWIAT Słonimski. | INSPECTOR / INSPEKTOR Marjan [illegible] |

Andrzej Łasewicz
Jan Mandrykiewicz.
Aleksy Wołynczyk
Pawel Stulewicz
Jan Kamyszkajło
Stefan Bocik
Leoń Markiewicz
Jan Sokołowski.
Siergiej Małachwij
Siergiej Sokołowski.
Stefan Mieleszko.
Aleksej Bocik.
Cichon Jurczyk.
Poleszak Piotr.
Antoni Baszkiewicz
Chomczyk Włodzimierz.
Piotr Wołdaś.
Mikołaj Wołynczyk.
Dymitr Sokołowski.
Klawdyja Krajni
Marja Leoszko
Luba Sokołowska
Olga Miszko

*Мялькманавічы.*



Jakimczyk Ana

Tekla Sokłowska.

Olga Markiewicz.

Mikołaj Poleszak

Olga markewicz

Zofja Wołodoćk

Mikołaj Rudak

Mikołaj Małachwij.

Piotr Małachwij

Bazyl Sokołowski

Nastazija Sokołowska

Marja Nalewajko

Zofja Bubnyk

Natalja Sokołowska

Ks.-pr. w Milkanowiczach Piotr Kucharewicz

Antoni Rumiec

p.o. Kierownik szkoły

Milkanowicze 10/V-1926 r.

DRUK. M. ARCT, WARSZAWA

***Мяльканавічы.***

SZKOLNICTWO POLSKIE W HOŁDZIE NARODOWI AMERYKAŃSKIEMU NA PAMIĄTKĘ 150-LECIA NIEPODLEGŁOŚCI STANÓW ZJEDNOCZONYCH

| | | | |
|---|---|---|---|
| SCHOOL SZKOŁA | Powszechna | TRUSTEE OPIEKUN | |
| LOCALITY MIEJSCOWOŚĆ | Miłowanie | PRINCIPAL KIEROWNIK | M. Bysymonttowa |
| DISTRICT POWIAT | Słonimski | INSPECTOR INSPEKTOR | [illegible] |

Helena Trzeciakówna. Antoni Utlik.

Jan Jermolik. Teodor Owsiejec.

Mikołaj Ciszko. Olga Ciszko.

Zofja Stryk. Aleksander Hrabun.

Helena Kozłowska. Marja Stryk.

Konstanty Ciszko. Olga Połchowicz.

Bronisława Kozłowska. Łukasz Utlik.

Jan Parfienczyk. Michał Rytko.

Konstanty Ciszko. Tomasz Zuprun.

Franciszek Kozłowski. Jan Horkawy.

Olga Horkawa. Michał Kulina.

*Мілаванне.*



Grzegorz Suprun. Konstanty Kulina.

Julja Suprun. Jan Miekienia.

Marja Suprun. Grzegorz Suprun.

Włodzimierz Horkawy. Eudokja Jednacz.

DRUK. M. ARCT, WARSZAWA

***Мілаванне.***



SZKOLNICTWO POLSKIE W HOŁDZIE NARODOWI AMERYKAŃSKIEMU NA PAMIĄTKĘ 150-LECIA NIEPODLEGŁOŚCI STANÓW ZJEDNOCZONYCH

| | |
|---|---|
| SCHOOL / SZKOŁA: Powszechna | TRUSTEE / OPIEKUN: |
| LOCALITY / MIEJSCOWOŚĆ: Rachowicze | PRINCIPAL / KIEROWNIK: Andrzej Hrynko |
| DISTRICT / POWIAT: Słonimski | INSPECTOR / INSPEKTOR: [illegible] |

I oddział.

Piotr Hrynko.
Jan Hrynko.
Aleksandra Hrycka.
Elżbieta Hrynko.
Marja Czerkies.
Marja Hrynko.

II oddział.

Bazyli Szpak.
Natalja Kiryk.
Teodor Czerkies.
Mikołaj Kuryłowicz.
Anastazja Czerkies.
Konstanty Ratosz.

III oddział.

Bazyli Simonczuk.
Serafima Hrynko.
Elżbieta Hrynko.
Eugienja Simonczuk.
Eugienja Moroz.
Walentyna Hrynko.
Helena Żuk.
Olga Szpak.
Witalij Ostapczyk.
Jan Czerkies.
Szejna Bejnusowska.
Dwejra Bejnusowska.
Paweł Połocki.

IV. oddział.

Antonina Czerkies.
Witalij Hrynko.
Olga Hrynko.
Witalij Szpak.

***Рахавічы.***



Aleksandar Czerkies.
Jan Daniluk.
Piotr Ratosz.
Mikołaj Olszewski.
Mikołaj Hrynko.
Piotr Huda.
Włodzimierz Połoński.
Kierownik szkoły Andrzej Hrynko
Wykładający naukę religii Ksiądz L. Drużyłowski

Podpisy stwierdza gminnego Zarządu
Wójt gminy Żyrowickiej
Henryk Bocznowski

DRUK. M. ARCT, WARSZAWA

***Рахавічы.***

# У Сяргея Чыгрына юбілей



Фота: baj.by

24 верасня будзе адзначаць 60-годдзе слонімскі паэт, літаратуразнаўца, краязнаўца, адзін з заснавальнікаў і аўтараў "СК" Сяргей Чыгрын. Ужо некалькі дзесяцігоддзяў ён плённа працуе, як даследчык слонімскай гісторыі. Рупліва збірае з аскепкаў карціны мінуўшчыны, вяртае імёны незаслужана забытых землякоў. Сяргей Мікалаевіч апублікаваў сотні, а можа і тысячы артыкулаў, выдаў дзясяткі кніг.

***Віншуем з юбілеем!***

*Рэдакцыя*

# Барыс Сапір

У 1914-1915 гадах у Слоніме жыў Барыс Сапір, будучы вядомы расійскі сацыяліст і гісторык сацыялістычнага руху. Ён нарадзіўся ў Лодзі ў 1902 годзе ў заможнай яўрэйскай сям'і. У наш горад трапіў у другой палове 1914-га, пасля пачатку Першай сусветнай вайны. Сям'я эвакуявалася ў Маскву, а ён з нейкай прычыны паехаў да сваёй цёткі (на жаль, яе імя і прозвішча невядомыя). У Слоніме жыў паўгода.* У 1915-м выехаў у Расію да бацькоў. Пасля заканчэння вайны сям'я вярнулася ў Польшчу, а Барыс застаўся ў савецкай Расіі. У пачатку 1920-х яго, як актыўнага меншавіка, арыштавалі бальшавікі. Спачатку былі турмы, пасля — канцлагер на Салаўках. У 1925 годзе Сапір уцёк з высылкі за мяжу — у Латвію, адкуль выехаў у Заходнюю Еўропу. Быў актыўным дзеячом сацыялістычнага руху. Памёр у 1989-м.



Фота: iisg.nl

●***Генадзь Гурскі***

**Янсен М. Борис Сапир: российский социалист и историк российского социалистического движения // Судьбы демократического социализма в России. Сборник материалов международной научной конференции. — Москва: 2014. С. 241.*

**"Слонімскі край"** — гісторыка-краязнаўчае электроннае выданне. Выходзіць раз на месяц.

Заснаванае ў лютым 2016 года

Рэдактар нумару ***Сяргей Ёрш***.

Наш адрас: **slonimskikraj@gmail.com**
Спасылка на "СК" пры передруку абавязковая.